

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES


STORY: KEVIN EASTMAN, BOBBY CURNOW, & TOM WALTZ
SCRIPT: TOM WALTZ • ART: MATEUS SANTOLOUCO, MARK TORRES (PAGES 1, 12, & 13), AND CORY SMITH (PAGE 22) • COLORS: RONDA PATTISON • LETTERS: SHAWN LEE
EDITOR: BOBBY CURNOW • "THE PIED PIPER OF HAMELIN" (1842) WRITTEN BY: ROBERT BROWNING


## THE STORY SO FAR...

As the other Turtles meet with potential allies, Leonardo and Splinter plan the family's next move in the lair. Little do they know they are being watched...


nickelodeon™

Special thanks to Joan Hilty, Linda Lee & Kat VanDam for their invaluable assistance.

IDW®
www.IDWPUBLISHING.com
IDW founded by Ted Adams, Alex Garner, Kris Oprisko, and Robbie Robbins

Ted Adams, CEO & Publisher
Greg Goldstein, President & COO
Robbie Robbins, EVP/Sr. Graphic Artist
Chris Ryall, Chief Creative Officer/Editor-in-Chief
Matthew Ruzicka, CPA, Chief Financial Officer
Alan Payne, VP of Sales
Dirk Wood, VP of Marketing
Lorelei Bunjes, VP of Digital Services
Jeff Webber, VP of Digital Publishing & Busness Development

Facebook: **facebook.com/idwpublishing**
Twitter: **@idwpublishing**
YouTube: **youtube.com/idwpublishing**
Instagram: **instagram.com/idwpublishing**
deviantART: **idwpublishing.deviantart.com**
Pinterest: **pinterest.com/idwpublishing/idw-staff-faves**




Аднойчы,
даўным-даўно...

...**пацук**!

Сабакі і кошкі
яго не пужаюць!

Ён у калысках
малых дзетак кусае.

То ў чан забярэцца,
дзе сыр зжарэ...

...то суп з-пад носа
ў цябе ўвядзе...

...то ў бочцы з аўсом
дзіру прагрызе.

У
капелюшах
дзяцей
нараджае...

...віскатаць
і крычаць жанчын
прымушае...

...і сам сваім піскам
і шамаценнем...

...даводзіць да страху,
выскокваючы з ценя.

Зараз.
«Значыць, **вырашана**...»
...спачатку мы атакуем «Фут» **усім**, чым валодаем.
А **Тэхнадром**?
Стане нашай **наступнай** мэтай. Але знішчэнне Сакі - самае важнае.
Ці ты не згодны?
Шчыра кажучы, і так, і не, бацька. Я згодны, што са Шрэдарам трэба скончыць. Але для нас гэта будзе не лёгка. І не хутка.
Я хачу сказаць, што Доні мае рацыю... Крэнг **ня будзе** чакаць, пакуль мы разбярэмся з «Фут», каб актывіраваць Тэхнадром.
Значыць, ты **ня згодны** з маім планам?
Я... Я проста не ўпэўнены.
Хадзем, Леанарда... Я хачу расцерці свае лапы.
Канешне, бацька. Куды ты хочаш пайсці?
Давай агледзім наш дом.

«...і абмяркуем тваe **сумневы**».

Напэўна, прыйдзецца лезлі праз вакно. Будзем спадзявацца, што **паліцыя** не з'явіцца.

Добра. І хто палезе? Ты ці...

RARGH!

...я?

Кейсі?

Містар і місіс А'Ніл?

Што... што **вы** тут робіце?

Эйпрыл табе не **сказала**?

Мы пераехалі да вас.


Так, яна... а... Здаецца, яна штосьці такое ўзгадвала.
Але чаму вы лезеце праз вакно?
О... мы ня ведалі, што Эйпрыл змяніла замкі, і вырашылі знайсці **іншы** спосаб патрапіць унутр, каб не турбаваць яе.
SECON
ARO
CLOS


Дарэчы, змяніць замкі прапанаваў я. Я занадта добра ведаю гэты раён.
А лезці ў вакно няма патрэбы. Мы схавалі **запасны ключ**, на ўсякі выпадак.


Божа, Кейсі... Што з тваім тварам?
А... глупства. Проста паспрачаўся з бацькам.


Гэта **не** глупства. Чаму ён пабіў цябе?
Доўгая гісторыя. Калі ласка... Не кажыце Эйпрыл, добра?
Яна і так хвалюецца за мяне.


Я бачу чаму. Хадзем... Эйпрыл мы пакуль нічога не скажам, але табе трэба прыкласці лёд да твара.
Не, сапраўды... усё нармальна. Я ў парадку. Я лепш пайду.
І **куды**, цікава?




Я...
...я ня ведаю.
Але **я** ведаю. Ты застанешся з намі. Апрацуем твае раны, і ты паведаміш нам, што з табой здарылася.


ME
OUND
SED
Я ж казаў, гэта доўгая гісторыя.
Нічога, сынок. Мы **не спяшаемся** ад цябе пазбавіцца.
SECO
TIM
ARO

Здаецца, мы зайшлі ў **тупік**, сын мой.

Што ж, майстар, мы сапраўды не можам знайсці агульнага рашэнне адноста стратэгіі, гэта **так**.

Бацька, я магу... я магу пагаварыць з табой аб матцы?

Канешне, сын мой.

Я... я ўвесь час узгадваю, як яна прыйшла да мяне ў сне і дапамагла вырвацца з-пад кантроля Шрэдара.

Часам мне здаецца, быццам яна **сапраўды** назірае за намі.

Нават калі гэта азначае, што я зусім з глузду з'ехаў.

Не, ты не з'ехаў з глузду. Твая маці з'ўлялася ў сне і да **мяне**.

Сапраўды?


Так. Відзячы эмацыянальныя пакуты, якія табе прыйшлося перажыць у няволі Шрэдара... я быў вельмі падушаны.


Тады твая маці з'явілася да мяне ў сне і нагадала, што ты вярнуўся да нас цэлым, і што любоў дапаможа нам прайсці праз **любыя** цяжкасці.
Тады табе не здаецца, што яна будзе турбавацца з-за таго, што мы збіраемся ваяваць з Шрэдарам?
Бо ты абяцаў ёй, што не будзеш помсціць яму.


Ах, так... гэта.


Гэта праўда, я даў тваёй маці такое абяцанне. Але з тых часоў прайшло цэлае жыццё, сын мой. **Цэлае жыццё**, бессэнсоўна загубленае жорсткасцю Ароку Сакі...
...і маёй нерашучасцю.
Ня трэба, бацька. Ты не можаш вінаваціць **сябе** ў гэтым.




Сын мой, у сутнасці, я даў вашай маці абяцанне, што буду абараняць вас, нашых любімых сыноў, і я збіраюся стрымаць яго **любымі** сродкамі.
Я не шукаю помсты, Леанарда... Я проста хачу стрымаць свае слова, дадзенае ёй... І вам.

Прыглядаць за маёй сям'ёй і берагчы яе.

Я **знайду** спосаб пакончыць з цемрай Ароку Сакі.

CLICK

Сын мой?

Сын мой, я... я не магу паварушыцца... ты тут?
**Леанарда?!**

Не губі дарэмна сілы, пацук. Тваё дзіця цябе не чуе.

Хто... хто гэта гаворыць?
У мяне было шмат імён. Так шмат, што я забыўся на іх усіх.
Але ты...


Вы дзівосныя істоты. Жывёліны, і ў той жа час... нешта **большае**.
Я ніколі не бачыў падобных вам. А я **многае** пабачыў у свой час, павер мне.


Сапраўды, дзівосныя.
Што гэта за д'ябальшчына? Дзе мы?


Ну канешне, у цябе ёсць **пытанні**. Трэба было здагадацца.
Я паспрабую адказаць на ніх.


Па-першае, як і твае маленькія суродзічы, акаляючыя вас, вы цяпер пад маёй апекай.


Хтосьці можа назваць гэта **палонам**...


CHOMP


...але я больш **цывілізаваны**.


Таму некаторы час вы абодва не зможаце рухацца. Ад цябе патрабуецца **пільная** ўвага.


У рэшце рэшт, нам трэба столькі **даведацца** адзін пра аднаго.


А калі дарослыя накшталт нас вядуць сур'зныя размовы, **дзецям** лепш быць перад вачамі і маўчаць.


Я разумею, што, магчыма, з майго боку гэта старамодна, але што зробіш?
Аднак не турбуйся - яго маўчанне **такое ж** часовае, як і твой параліч.


А вось праца маёй сястры - зусім іншая справа.
Ад гэтага дзіцяці так і пахне ёю.


Што тычыцца твайго другога пытання, я ўжо **сказаў** табе - мы ў маім доме, якім бы ён ні быў. Няхай ён трохі незвычайны, але ўтульны, тым не менш. Прабач мне гэтую ганарлівасць.
Кельты называлі яго «**томкім месцам**». Сярэднім светам.


Ні там, ні тут.


Ёсць і іншыя тонкія месцы. Але, на некаторы час, маё - **тут**.
Навошта ты зацягнуў нас сюды?
А сапраўды, навошта?
Для адказа на гэтае пытанне я дам вам невялікі ўрок гісторыі.
Старажытнай гісторыі.

«Я выхадзец з **далёкай** мінуўшчыны, з часоў, калі чалавецтва яшчэ было маладым, а мая сям'я - усе магутнейшыя стварэнні - **змагаліся** за ўладу над светам».

«Светам, памяць аб якім **страчана**, нажаль».

«Аднак я, як і мае субраты, працягваў хавацца сярод расквітаючага чалавецтва і выкарыстоўваў свае сілы эканомна»,

«У **маім** выпадку, каб узнагародзіць»,

«Часам, каб пакараць».

«Але заўсёды -
я чакаў пачатка
**вялікай гулькі**».

«Тады мая сям'я і я
**зноў** пачнем змаганне
за трон усяго света».

«Света, які зноў будзе гатовы
да **незвычайнага**...»


«...як і ў часы **Ноя**».


І як гэта тычыцца **нас**?


О, ніяк. Ці цалкам. Гэта будуць вырашаць такія, як я - вашыя **гаспадары** - калі прыйдзе час.
Свет - гэта наша **шахматная дошка**, а на кожнай дошцы павінны быць пешкі. Пешкі, якія могуць быць захаваны ці ж ахвяраваны.
Часамі гэта залежыць ад **капрызаў** гульца, а часамі - ад сілы **хода** ў гульне.


І гэтай ноччу, мая пешка, **мой** капрыз - высвятліць, наколькі **вы** моцныя.


Здаецца мне, занадта доўга нашыя **дзеткі** заставаліся па-за гульнёй, ці ты не згодны?


«Бургамістр застыў, і Рада на імгненне...»
Што?..










«...відаць было толькі далёка».

NOOOO!









Леанарда? Я **вольны**... я зноў магу рухацца.

Ты чуеш мяне?

Калі ласка, адгукніся...

«...і флейтыст вайшоў...»

...сын?

«...і дзеці за ім».

Што ж, я стаміўся ад усяго гэтага.

Не, Леанар-да, **паслухай** мяне, я...

Хопіць. **Ты**, мабыць, і баішся абараняцца, але **я** не баюся.

KLANG

Не, бацька.

**Гэта так!**


Што ты з ім зрабіў?
«А пра тышчу гульдэнаў казалі, - брэдні то былі, калі між намі».
Гульдэнаў? Што яшчэ за **загадкі**, дэман?
Я ўсяго толькі кажу пра **парушаныя абяцанні**, сэр...
...пра тваю ўсягдашнюю няздольнасць **абараніць** сваіх дзяцей.


Ты ведаеш, ён **мае рацыю**. Ты падстаўляеш нас зноў і зноў. Размовы, размовы, размовы... У гэтым увесь ты. **Усё**, на што ты здольны.
Нічога, акрамя пустых слоў і хлусλівых абяцанняў.


Я не **вораг** табе, сын мой.
Ах, адмаўленне. Ты хаваешся ад праўды, пацук, нават калі яна стаіць прама перад табой.
Баюся, так робяць усе заблытаўшыяся бацькі... Пакуль не будзе зусім позна.


«Але не памогуць ні пошук, ні маленні - назаўжды пазнікалі флейтыст і танцоры ў час летуцення».
Досыць гэтай бессэнсоўнай паэзіі, монстар!
Яшчэ не **позна**! Не можа такога быць!


«Гнёзды разбіць да апошняй нары».
«Цясляроў вы на параду заклічце, каб не засталося ў нас і слядоў... Пацукоў!»
Гэта ўсё на **тваім** сумленні, бацька. І ты гэта **ведаеш**.
Я... так, я ведаю.
Мая няздольнасць знішчыць Ароку Сакі стала **віной** усяму, што здарылася і ўсяму, што яшчэ можа адбыцца.


Але **цяпер** я пачну дзейнічаць, абяцаю... Я знішчу ўсіх нашых ворагаў перш, чым яны знішчаць нас.
А хіба яны гэтага яшчэ не зрабілі? Сляды ад раненняў, якія я атрымаў, **ніколі** не знікнуць.
Прашу цябе, сын мой... прабач мяне.


Хм... Хоць гэтыя самабічаванні **раздражняюць** мяне...
...я захоплены тваім апантаным імкненнем абараніць сваё дзіця, пацук.
На самой справе, гэта вельмі карысная рыса.
Такім чынам, ход **бацькі** зроблены...

«...цяпер чарга **сына**».

Бацька? Бацька... пацукі.

Мне здаецца, яны...

...ня ўсе.

...зніклі.

Але не ўсе, сябра...

GRAAH!

SCHWP

Я ведаю, што ты такое. Што спрабуеш зрабіць са мной. З намі.

Ты так лічыш, дзіця?

Так. Ты лічыш, што зможаш збянтэжыць мяне, але ты памыляешся.

Бо гэтым разам я ведаю, хто **сапраўдны вораг**.


Толькі ня зноў.
О, але так і ёсць, дзіця. Праўда дае зразумець...
...што **сапраўдны** монстар выйшаў на свет.
Плаксівы вырадак. Заўсёды такі слабы...


...заўсёды такі напужаны.
Не... стой. Я не дам табе падыйсці бліжэй.
«Капкан, капкан, капкан бы цяпер!»
Кім бы ты ні быў, я ведаю, што ты не мой бацька. Я буду **абараняцца**.
Дык дакажы.


Няўдзячны шчанюк, ты мяне параніў? Свайго ўласнага бацьку?
Гэта было папярэджанне. І хопіць зваць сябе маім бацькам - гэта не спрацуе.
Але ён стаіць прама перад табой, дзіця... Твой бацька, які ён ёсць **на самой** справе - монстар!
Не... мой бацька добры чалавек. Ты **на самой справе** лічыш, што я ня ведаю, што адбываецца?
«Праца маёй сястры... Ад гэтага дзіця так і **пахне** ёю».


RAHH!
«Там флейта спыняе свой гук...»


«...і нашыя дзеці вярнуцца дадому!»
Выдатна. Мая сястра скарысталася тваімі сумненнямі. Але цяпер яны зніклі, і ніхто не зможа зноў выкарыстаць іх супраць цябе.
Ты ператварыў сваю слабасць...
...у сваю сілу.










Я ніколі раней не сутыкаўся з такімі стварэннямі, як вы. Пацук, які на самой справе чалавек і бацька. І чарапаха, якая з дзіцця ператварылася ў мужчыну - хутчэй **рыцар**, чым пешка.

Гульня за лёс света толькі пачалася, і мае супрацўнікі ўжо зрабілі свае першыя хады. Але будзьце ўпэўненыя, мая чарга прыйдзе, і калі гэта здарыцца...

...магчыма, я буду хадзіць маім рыцарам.

Праз імгненне вы мяне не ўзгадаеце, але ведайце...

...я вас **не** забуду.




Так, а... Бацька... Што ты казаў?
Эм... Так, наконт **абяцання**, якое я даў тваёй маці.


Бацька! Што ў цябе з рукой?
Ты ў парадку? Мабыць, табе лепш прысесці?
Я... я ня ведаю.


Ня трэба, чын мой, я магу ста-яць. Я не адчуваю слабасці.


«І цяпер ты ператварыў сваю слабасць у сваю **сілу**...»
Вось яно.


Сын мой?
Бацька, цяпер я **ведаю**...


«...я ведаю, як **пераадолець** Шрэдара».






WHUP
WHUP
WHUP
WHUP


**Шрэдар**, я так разумею?
Менавіта так...


**...генерал Крэнг.**
Працяг будзе!